


# ЭМІГРАНТ

№ 2, травень 2002 г. *Месячнік беларускай палітычнай эміграцыі ў Польшчы*

# Шлях да дэмакратыі — праз павагу да ўласнасці

*Валерый Кругавы, кандыдат эканамічных навук*

Прыязджаючы ў Польшчу, нават на непрацяглы тэрмін, ніводзін з беларусаў не абміне польскі супермаркет. І гэта незалежна ад яго сацыяльнага ці маёмаснага стану. Усе гэтыя гандлёвыя гіганты маюць замежныя назвы і належаць не толькі польскім, але і нямецкім, французскім, італьянскім фірмам. Напэўна, многія суайчыннікі задаюцца пытаннем — а ці будзе на Беларусі калі-небудзь штосьці падобнае? Сёння толькі самы лянівы не ведае, што Беларусь па ўзроўню замежных інвестыцый знаходзіцца на самым нізе ў рэйтынгу былых савецкіх рэспублік. Гэтаксама ўсе ведаюць і прычыну такога становішча.

Што можа прапанаваць Беларусь замежнаму інвестару? Чым зацікавіць яго? У грамадскай свядомасці ўжо склаўся шэраг стэрэатыпаў. А менавіта — Беларусь валодае добрым геаграфічным становішчам, таннай і адначасова кваліфікаванай рабочай сілай, развітай прамысловасцю (напэўна, у параўнанні з Малдовай). Гэтыя перавагі ўжо сталі ледзьве не хрэстаматыйнымі. Даўно пара і простым грамадзянам, і спецыялістам пераасэнсаваць іхнюю значнасць для замежнага капітала Еўропы і ЗША. Давайце паглядзім на гэта не са свайго, а з іх пункту гледжання. Пры гэтым не забываючы, што ў свеце ідзе жорсткая канкурэнтная барацьба за знешнія інвестыцыі. З гэтых пазіцый — чым лепшае нашае геаграфічнае становішча ў параўнанні з Літвой, Украінай ці Польшчай? А нічым! Калі з Варшавы да Масквы бліжэй праз Мінск, то з балтыйскіх партоў Польшчы, Германіі — ужо не! Ну а рабочая сіла? Ніхто не спрачаецца, яна на Беларусі танная і намаганнямі „бацькі" працягвае таннець. Нават нашумелыя 100 долараў прэзідэнцкай выбарчай кампаніі выглядаюць несур'ёзна побач з 400 доларамі сярэдняга заробку ў Польшчы і 250 доларамі ў Эстоніі. Толькі, папершае, не трэба забываць, што побач Украіна, дзе па ўзроўню зарплаты незначна адышлі ад Беларусі. А па-другое, калі гаварыць аб якасці, то нам вельмі далёка да, напрыклад, польскага рабочага. Многія нашы працоўныя, спадабаецца камусьці ці не, стаяць на ўзровень ніжэй і па ўменню працаваць, і па жаданню працаваць, і, самае галоўнае, па адносінах да якасці выконваемай працы. Бясконцыя перакуры, нізкая адказнасць за працу — гэтая спадчына „развітога сацыялізму" па-ранейша-

(*працяг на 8 стар.*)

## У гэтым нумары



## *Да Чытачоў*

*Паважанае спадарства!*

*Вы трымаеце ў руках другі нумар „Эміграната". Ён пабачыў свет дзякуючы аддансці справе дэмакратызацыі Беларусі калектыву рэдакцыі і дапамозе нашых сяброў у Польшчы, перш за ўсё беластоцкіх беларускіх арганізацый, сябраў Зьвяза. Гэта падкрэслівае тое, што не мы адны зацікаўленыя ў паляпшэнні палітычнай і эканамічнай сітуацыі на нашай Радзіме.Гэта першае выданне такога кшталту сярод беларускай эміграцыі ў свеце.*

*Калі казаць пра першы нумар, то яго з'яўленне прыцягнула ўвагу не толькі беларускай дэмакратычнай грамадскасці, але і самых разнастайных сродкаў масавай інфармацыі, як у Польшчы, так і на Беларусі. Аб падзеі распавядалі сваім слухачам Польскае Радыё Беласток і Радыё „Палонія", Беларускае Радыё Рацыя і радыё „Свабода". Інфармавалі чытачоў пра выхад новага выдання тыднёвік беларусаў у Польшчы „Ніва", „Газета Выборчая", „Газета Всполчэсная", „Рэч Паспаліта" і шмат іншых. Карыстальнікі інтэрнэту маглі даведацца пра „Эміграната", зайшоўшы на вэб-сайт Польскай Агенцыі Прасовай.*

*На Беларусі шмат хто здолеў пазнаёміцца з газетай дзякуючы намаганням Магілёўскага гарадскога клуба выбаршчыкаў, а таксама мясцовых праваабаронцаў.*

*Такім чынам, добры рэзананс пра нашую справу пайшоў, так бы мовіць, па свеце. І, зразумела, дайшоў да беларускіх уладаў. А вось пра іх рэакцыю нам пакуль нічога невядома. Але, шчыра кажучы, яна наўрад ці з'явіцца, бо лепей за ўсё для гэтай улады замоўчваць пра тое, чым жывуць людзі, якія былі вымушаны пакінуць Беларусь па палітычных матывах. Што ж, як гаворыцца, Богу – богава, а кесару – кесарава. А ў нас наперадзе яшчэ досыць працы, бо адна з асноўных задач выдання – аб'яднанне вакол Зьвяза Палітычных Уцекачоў грамадзян Беларусі, якія жывуць за межамі Радзімы. Таму будзем заўсёды ўдзячныя вашым заўвагам і прапановам.*

**У гэтым нумары мы раскажым нашым чытачам пра дзейнасць Прадстаўніцтва Зьвяза Беларускіх Палітычных Уцекачоў у Варшаве. З гэтай мэтай адбылася наша гутарка з намеснікам старшыні, кіраўніком Варшаўскага Прадстаўніцтва Валерыем Кругавым**

# Валерый Кругавы: „Мы павінны аб'яднаць вакол Зьвяза беларускую эміgranцкую дыяспару"



***— Чаму на вашую думку неабходна такая арганізацыя, як Зьвяз?***

— Існуе прымаўка — „бяда аб'ядноўвае людзей". Мне здаецца, гэты выраз вельмі падыходзіць да Зьвяза беларускіх палітычных уцекачоў. Калі атрымаць статус уцекача беларусам адносна лягчэй, чым выхадцам з іншых краін,то адаптавацца да новага жыцця ім цяжэй. Беларускія эмігранты ў большасці сваёй аказваюцца ў больш цяжкай сітуацыі, чым людзі, якія выехалі са сваіх краін у пошуках лепшай долі, уцякаючы ад жабрацтва ці вайны. Апошнія ведаюць, на што пайшлі і сама эміграцыя для іх — жаданая мара. Для мяне ж і маіх калегаў — эміграцыя — вымушаны, нежаданы крок з усімі выцякаючымі наступствамі. Ужо адна гэтая абставіна аб'ектыўна спрыяла ўсталяванню шчыльных кантактаў паміж людзьмі, якія не ведалі адзін аднаго да прыезду ў Польшчу. Вялікае значэнне мела і аб'ядноўваючае ўсіх нас непрынянцце правячага на Беларусі рэжыму.

***— Як даўно паўстала Варшаўскае Прадстаўніцтва Зьвяза?***

— На момант стварэння Зьвяза ініцыятыўная група і амаль усе сябры яго знаходзіліся ў Беластоку. Адзіным сябрам арганізацыі ў Варшаве быў я. Таму пасля рэгістрацыі Зьвяза і абранню мяне намеснікам старшыні я бачыў сваю задачу перш за ўсё ва ўсталяванні кантактаў з беларускімі ўцекачамі ў Варшаве і бліжэйшых гарадах, фармаванне тут ядра сябраў Зьвяза і пераўтварэнне самога Зьвяза ў паўнацэнную грамадскую арганізацыю. Без гэтага гаварыць аб дапамозе ўцекачам з Беларусі было б пустой балбатнёй. У той жа час, трэба было прадставіць Зьвяз усім польскім грамадскім арганізацыям, якія тым ці іншым чынам займаюцца ўцекачамі. Неўсталяваўшы кантактаў з імі, цяжка казаць аб выкананні нашай арганізацыяй тых задач, дзеля якіх яна ўтваралася.

***— Як вырашаюцца пастаўленыя перад Зьвязам задачы?***

— На сёння, як я мяркую, ёсць добры пачатак у вырашэнні вышэйзгаданых задач. У бюро Вярхоўнага камісара ААН па справах уцекачоў мяне сустрэлі вельмі ветліва і паабяцалі „помніць заўсёды", падарылі брашуры аб польскім заканадаўстве і прапанавалі „заходзіць на каву". Увогуле інфармацыя аб нашым Зьвязе сустрэла вялікую цікавасць. Як мне казаў намеснік Вярхоўнага камісара спадар Траян: „Ваш Зьвяз з'яўляецца першым і адзіным зарэгістраваным у Польшчы аб'яднаннем уцекачоў і вельмі добра, што зараз ёсць каму дапамагаць палітычным эмігрантам". Але калі па шчырасці, то я чакаў дапамогі ад іх саміх, аднак высвятлілася — ў Польшчы гэтае падраздзяленне ААН больш займаецца маніторынгам заканадаўства і яго выкананнем, чым канкрэтнымі пытаннямі дапамогі ўцекачам.

Не меней, калі не болей, для Зьвяза важнымі з'яўляюцца кантакты і добразычлівыя адносіны з боку Польскага Хельсінскага Фонду Правоў Чалавека. Узначальвае яго вядомы актывіст „Салідарнасці" часоў ваеннага становішча, грамадскі дзеяч спадар Марэк Навіцкі. У першых днях траўня Прэзідэнт Польшчы Аляксандр Кваснеўскі ўручыў яму адну з вышэйшых дзяржаўных узнагарод за заслугі ў грамадскім жыцці краіны.

Менавіта з ім у мяне адбылася доўгая размова напрыканцы лютага гэтага года. Спадар Марэк Навіцкі добра ведае сітуацыю на Беларусі, яго арганізацыя шчыльна супрацоўнічае з Беларускім Хельсінскім Камітэтам і яго старшынёй Таццянай Працькай.У канцы сустрэчы я пачуў ад яго, што Хельсінскі Фонд Правоў Чалавека ў Польшчы падтрымае ўсе нашыя ініцыятывы, дапаможа нам у кантактах з польскімі ўрадавымі структурамі. Зьвяз, на думку спадара Навіцкага, павінен падняцца на такі арганізацыйны ўзровень, каб аб'яднаць вакол сябе беларускую эміgranцкую дыяспару і аказваць эфектыўную дапамогу апазыцыі на Радзіме: „так, як дапамагала нам у часы Салідарнасці замежная Палонія". Напэўна, мы таксама хацелі бы дапамагчы сваім аднадумцам у Беларусі не толькі пікетамі і пратэстамі, але пакуль нам яшчэ далёка да Палоніі. Тым не менш, мы ставім перад сабой такую мэту і працуем у гэтым напрамку.

***— Хто дапамагае Вам у працы?***

— Выпадкова ці не, але праца Зьвяза ў Варшаве пачалася менавіта ў час, калі адбываўся разгляд справаў аб экстрадыцыі грамадзян Беларусі — Аляксандра Якаўлева і Вацлава Маркевіча. Аб маім удзеле ў гэтых працэсах як намесніка старшыні Галоўнай Управы Зьвяза была напісана ў першым нумары „Эмігранта", я толькі дадам, што, акрамя мяне, гэтымі працэсамі займаліся таксама іншыя сябры Зьвяза Варшаўскай групы. У той час такая група ўжо з'явілася. Хачу назваць імёны калегаў, якія актыўна дапамагаюць мне ў працы, гэта Сяргей Кавалёнак і Ігар Бяляеў. Абодва атрымалі статус уцекача ў мінулым годзе па палітычных прычынах. Без іх падтрымкі і часу, які яны аддаюць на справы Зьвяза, у мяне нічога не атрымалася б.

***— Якія праекты Вы ажыццяўляеце на сённяшні дзень?***

— На сённяшні дзень разам з сябрамі Зьвяза з Беластоку мы працягваем працу над распачатымі праектамі і думаем, як аб'яднаць намаганні беларускіх палітычных эмігрантаў з розных краінаў Еўропы. Першы крок у напрамку ўсталявання кантактаў з нашымі калегамі мы ўжо зрабілі. Вось ужо месяц мы актыўна абменьваемся інфармацыяй з аб'яднаннем беларускіх палітычных эмігрантаў у Бельгіі, якое носіць назву „Беларускі Цэнтр палітычных эмігрантаў у Бельгіі" і знаходзіцца ў Антверпене.

# Журналіст — патэнцыйны вораг лукашэнкаўскага рэжыму

*(3 траўня — Міжнародны дзень свабоды прэсы)*

Быў час, калі існавала на палітычнай карце свету такая краіна як Савецкі Саюз. Потым яе не стала. Сёння вялікая колькасць людзей лічыць, што адбылося гэта з-за „змовы" ў Белавежы. І вельмі цяжка ім растлумачыць, што канстатацыя факта смерці не можа з'яўляцца забойствам.

А „смерць" СССР наступіла значна раней снежня 1991 года. І прычыны яе не столькі ў палітыцы і эканоміцы гэтай вялікай па памерах дзяржавы, колькі ў дасведчанасці людзей аб тым, што робіцца ў ёй. На жаль, даведацца аб праўдзе грамадзяне Краіны Саветаў змаглі тады, калі нічога ўжо зрабіць было немагчыма. Бо мала хто тым, якія зараз пры згадцы Гарбачова пагражаюць кулакамі, распавядаў пра нафтадолары і заняпад савецкай вёскі, пра такую колькасць бракаванай прадукцыі, якая значна пераўзыходзіла нешта прыгоднае ў карыстанні, пра ўсё больш растучае п'янства і алкагалізм, пра вар'яцкія эксперыменты над роднай прыродай, пра сутнасць сталінскіх рэпрэсіяў і „псіхічнахворых" брэжнеўскай эпохі, пра карані блату і г.д, і г.д.

Адразу паўстае пытанне — а чаму не распавядалі? А таму што не было ў Савецкай дзяржаве людзей, якія б узялі на сябе смеласць гаварыць пра тое, што думаюць, не баючыся пераследу з боку трымаючых уладу. Прынамсі, савецкі чалавек такіх не ведаў і адпаведна прытрымліваўся лініі паводзін страўса — галаву ў пясок, месца адкуль растуць ногі — наверх.

Паскарэнне, галоснасць, перабудова, чалавечы фактар — такія лекі прапісала роднай краіне савецкае кіраўніцтва, калі зразумела, што ў хуткім часе дурыць народ расповядамі „про реактор, про привычный лунный трактор" стане па-просту небяспечна для сабе. „Трупны водар" гніення савецкіх парадкаў пачынаў даходзіць да самых „забітых" насоў.

І тут адбыўся выбух. Выбух інфармацыйны. Вялікай колькасці людзей захацелася пісаць, а яшчэ большай чытаць. І чытаць пра тое, што тычылася ўсяго грамадства. Амаль кожны чытач адчуваў дачыненне да той




ці іншай падзеі, амаль кожны грамадзянін ад шчырага сэрца імкнуўся распавесці бліжняму аб яго пункту погляду на развіццё сваёй краіны.

Гэтыя падзеі не абмінулі Беларусь, нават нягледзячы на тое, што была яна, па словах Алеся Адамовіча „антыперабудовачнай Вандэяй". Узнікалі дзесяткі, сотні новых друкаваных выданняў, перасталі глушыцца замежныя радыёстанцыі, журналісты адразу станавіліся не проста журналістамі, а журналістамі-палітыкамі. Вобразна кажучы, думка аб сваёй Радзіме выйшла з падполля. Прэса стала свабоднай.

Магчыма, меў рацыю Карл Маркс, калі гаварыў, што развіццё грамадства адбываецца па спіралі. З сярэдзіны дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя, Беларусь у сваім грамадска-палітычным жыцці пачала разварочвацца назад. Не будзем уваходзіць у прычыны такога развароту, але факт застаўся фактам. Наўрад ці хтосьці аспрэчыць з'яўленне „белых плям" на старонках „Народнай газеты", зняволенне Паула Шэрамета і Дзміцера Завадскага за пагранічны тэлесюжэт, ганенні на незалежную мясцовую прэсу, звальненне журналістаў з дзяржаўных СМІ за „неадпаведнае" асвятленне, арышты і зняволенні журналістаў за імкненне знаходзіцца ў месцах падзей і г.д., і г.д. „Притчей во языцах" стала знікненне аператара ОРТ ужо згаданага Завадскага і расправа над газетай „Пагоня". І вось новая „гучная справа" — Лукашэнку і яго цемрашалам не спадабалася НТВ, а дакладней карэспандэнт Павел Селін. „Злачынства" апошняга заключалася ў рэпартажах аб падзеях у Курапатах, палітычнай эміграцыі і ўвогуле размовах з тымі, каго не любіць улада. Людзі, якія згаджаюцца на прызначэнне Генеральным пракурорам чалавека без вышэйшай юрыдычнай адукацыі, на кіраванне Нацыянальнай Акадэміяй навук не акадэмікам, а звычайным наменклатуршчыкам, на святкаванне „Дажынак" пры паўнейшым заняпадзе сельскай гаспадаркі, раптам заяўляюць аб „няпоўнай службовай адпаведнасці" журналіста адной з аўтарытэтнейшых тэлекампаній.

Зразумела, Лукашэнку і яго лёкаям пляваць на тыя праблемы, што стварылі яны сваёй палітыкай Беларусі і беларускаму народу. Галоўнае — улада, любым шляхам, любымі ахвярамі. І не важна, што з сённяшнім кіраўніцтвам краіны не жадае супрацоўнічаць цывілізаваны свет — Нарцыс задавальняўся тым, што сам сабе здаваўся вельмі прыгожым і гэтага яму хапала. Аднак і Савецкаму Саюзу хапала таго, што „в области балета мы впереди планеты всей". Ды толькі вынікам такога самалюбавання стала знікненне краіны.

Міжволі ўзнікае пытанне, ці не дарма вучыўся сённяшні кіраўнік дзяржавы на гістарычным факультэце, калі нават нядаўняя гісторыя не набыла ніякага замацавання ў ягонай свядомасці? Альбо прычыны ў іншым — калі першай асобе дзяржавы абыякавы прэстыж і аўтарытэт уласнай краіны на планеце, калі ён, па ўласных словах, за цывілізаваным светам яе не павядзе, то, напэўна, і не трэба ведаць людзям гэтай краіны праўду аб тым, што ў ёй робіцца. А тым „нячэсным" журналістам варта „заткнуць глотку".

Зразумела, далёка не кожны сапраўдны журналіст сёння пагодзіцца з падобнымі здзекамі. Калі чалавек лічыць для сабе неабходным гаварыць тое, што думае, ён знойдзе спосаб гэта зрабіць. А калі не знойдзе, то тым горш таму, хто зачыняе яго рот, бо набывае сабе па-просту тайнага ворага, да якога вельмі небяспечна паварочвацца спіной.

Будзьце пільным, Аляксандр Рыгоравіч!

*Ул. Лапцэвіч*

# Беларускі свет

**Найбольш масавы польскі часопіс „Wprost" сцвярджае, што „Лукашэнка адмывае грошы ў Польшчы".** У артыкуле распавядаецца пра адмыванне праз звязаныя з афіцыйным Мінскам беларускія фірмы ў Польшчы ды іншых краінах грошай за нелегальны продаж беларускай зброі. Паводле аўтараў артыкулу, стварэннем сеткі продажу зброі займаецца беларускі КДБ пры дапамозе, у тым ліку, і замежных прадстаўніцтваў Мінскага аўтамабільнага заводу.

**Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця заявіў, што скарачае сваю дзейнасць у Беларусі у знак пратэсту супраць адмовы краіны праводзіць палітычныя і эканамічныя рэформы.** Новая стратэгія банку, якая была абвешчаная на штогадовай сэсіі ЕБРР у Бухарэсце, не была нечаканай. Банк заявіў, што яна выцякае з аналізу яго дзейнасці ў Беларусі пасля прэзыдэнцкіх выбараў, якія не былі прызнаныя дэмакратычнымі.

Новая стратэгія прадугледжвае, што Банк будзе надалей трымаць свой невялікі партфель пазыкаў у Беларусі і будзе падтрымліваць невялікія прыватныя кампаніі, але заблакуе любыя вялікія пазыкі ці інвестыцыі ў эканоміку Беларусі.

**У Мінску зноў судзяць экс-прэм'ера Міхаіла Чыгіра.** Гэтым разам яму пагражае сем гадоў турмы за нявыплату падаткаў.



Працэс, які пачаўся ў Фрунзенскім райсудзе Мінску — другі ў біяграфіі Міхаіла Чыгіра. Вынікам першага, у 2000 годзе, стала прызнанне экс-прэм'ера датычным да знікнення мільёна даляраў з рахунку „Белаграпрамбанку" ў той час, калі ён кіраваў банкам і распачаў будаўніцтва для яго новага офісу. Ініцыятыва каштавала Чыгіру трох гадоў умоўнага пакарання, але праз паўгода Вярхоўны суд адмяніў гэты вердыкт і накіраваў справу на новае расследаванне. І вось цяпер яна вярнулася ў суд. Гэтым разам экс-прэм'ера абвінавачваюць у службовай нядбайнасці, а ў дадатак яшчэ і ў нявыплаце падаткаў за той час, калі ён працаваў кансультантам нямецкага канцэрну „Геа". Міхаіл Чыгір, як і раней, не прызнае сябе вінаватым ні ў эпізодзе з мільёнам даляраў, ні з падаткамі. Настойлівае жаданне пасадзіць яго ў турму экс-прэм'ер тлумачыць палітычнай замовай зверху ды імкненнем следчых апраўдаць тыя восем месяцаў, на якія яго пазбавілі волі ў 1999 годзе, пасля арышту яшчэ да суда.

**Актывісты моладзевай вахты памяці ў Курапатах абвясцілі на прэсавай канферэнцыі, што з 3 чэрвеня прыпыняюць кругласутачнае дзяжурства ва ўрочышчы і пераходзяць на дзённае патруляванне нацыянальнага нэкропалю.** Летась 24



верасня ўвечары васьмёра маладых людзей з крыжамі сталі перад бульдозерамі, і менавіта з гэтага пачалася вахта памяці ў Курапатах, якая цягнецца ўжо амаль восем месяцаў. Як патлумачыў лідэр Маладога Фронту Павал Севярынец, яны плануюць арганізаваць урачыстае зняццё лагеру абаронцаў Курапатаў і прымеркаваць гэта да 3 чэрвеня — даты, калі ў 1988 годзе выйшаў знакаміты артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва „Курапаты — дарога смерці". Якраз з гэтага артыкула і пачалася гісторыя не толькі Курапатаў, але і нацыянальнага руху.

**Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі можа стаць прадметам разгляду польскага парламенту.** У Варшаве распачаўся збор подпісаў пад зваротам да польскага Сэйму і Сенату з заклікам правесці парламенцкія слуханні ў справе сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Падпісанты заклікаюць дэпутатаў узяць прыклад з літоўскага Сэйму. Ініцыятарам збору подпісаў стаў палітычны ўцякач, апазіцыянер Валер Грыцук.

**Тры гады, як знік Захаранка.** 6 траўня ў цэнтры Мінску адбылася



чарговая акцыя апазіцыі „Ланцуг неабыякавых людзей", прысвечаная знікненню экс-міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі. Афіцыйнае следства дагэтуль не завершанае. Знікненне экс-міністра здарылася пасля таго, як ён пакінуў кабінет Аляксандра Лукашэнкі і актыўна заняўся апазіцыйнай дзейнасцю. У часе акцыі апазіцыянеры патрабавалі адказу на пытанне: „Куды ў Беларусі знікаюць людзі?"

**Сям'я Генадзя Карпенкі атрымала палітычны прытулак у Нямеччыне.** Беларуская палітычная эміграцыя папоўнілася імёнамі Людмілы Карпенкі, дзяцей Дзмітра і Тацяны ды ўнучкі Насты. Нямецкія ўлады тры месяцы разглядалі заяву пра палітычны прытулак, і прыйшлі да высновы, што Карпенкі маюць рэальную пагрозу для жыцця і свабоды на тэрыторыі Беларусі.

**Манаполія на інтэграцыю парушаная.** Канцэпцыя беларуска-расійскіх дачыненняў „Правы погляд",



падпісаная лідэрам Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатолем Лябедзькам і лідэрам СПС Расіі Барысам Нямцовым, разбурае манаполію Аляксандра Лукашэнкі на беларуска-расійскія дачыненні. Лейтматыў дакументу самі лідэры партыяў вызначылі як „супольны рух у Еўропу". Барыс Нямцоў сустрэўся са сваякамі зніклых і рэпрэсаваных палітыкаў і журналістаў і паабяцаў арганізаваць парламенцкія слуханні пра зніклых у Дзярждуме.

**16 траўня ў Ленінскім судзе Гродна распачаўся судовы працэс над журналістамі газеты „Пагоня" Міколам Маркевічам і Паўлам Мажэйкам** — і адразу ж быў перанесены на 4 чэрвеня.

# Беларускі Саюз – інтэлектуальнае ядро беларускай меншасці

**Амаль 10 гадоў у Польшчы дзейнічае Беларускі Саюз. За перыяд свайго, хай яшчэ не надта доўгага жыцця, ён паспеў набыць сваіх прыхільнікаў і мае досыць яскравых спраў. Каб пазнаёміць чытачоў „Эмігранта" з гэтым Саюзам, яго набыткамі і перспектывамі адбылася мая размова з кіраўніком арганізацыі, адначасова старшынёй Радыё Рацыя Яўгенам Вапам.**



*— Спадар Яўген, як і чаму паўстаў Беларускі Саюз у Польшчы? Што падштурхнула да яго ўтварэння?*

— Саюз арганізаваўся ў 1993 годзе і ў яго складзе сем беларускіх аб'яднанняў — Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Беларускае Гістарычнае Таварыства, Асацыяцыя Беларускіх Журналістаў, Праграмная рада тыднёвіка „Ніва", Беларускае аб'яднанне студэнтаў, Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа", Беларускае культурнае таварыства „Хатка" з Гданьску. Такім чынам, тая арганізацыя, якую я ўзначальваю з'яўляецца федэрацыяй самастойна дзеючых грамадскіх аб'яднанняў.

Вядомыя падзеі ў Польшчы ў 1989 годзе сталі свайго роду штуршком да ўтварэння Саюза. На сённяшні дзень, асноўная дзейнасць яго скіраваная на абмеркаванне і вызначэнне галоўных спраў дзеля вырашэння праблем традыцыйнага беларускага ясяроддзя.

*— Якое стаўленне да Саюза з боку большасці этнічных беларусаў?*

— Саюз неаднаразова ўдзельнічаў у розных выбарчых кампаніях, у яго складзе многа выдатных, знаёмых людзям з лепшага боку асобаў. Таму Беларускі Саюз успрымаецца як інтэлектуальнае ядро мясцовых беларусаў і адпаведна мае вялікі аўтарытэт.

*— За той перыяд, што існуе Саюз, напэўна, было дастаткова зроблена добрых спраў. Якія найбольш яскравыя Вы можаце ўзгадаць?*

— Кожная з арганізацый, якія ўваходзяць у Саюз, маюць свае здабыткі, што могуць лічыцца здабыткамі ўсяго нашага аб'яднання ў цэлым. Разам з тым скажу, што дзякуючы нам павялічыўся час вяшчання па-беларуску на Польскім радыё і тэлебачанні, туды пайшлі працаваць рэкамендаваныя намі людзі. Ну, а адным з самых адметных дасягненняў — заснаванне Радыё Рацыя — адзінага радыё нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

*— Гэтымі днямі ў Рэспубліцы Польшча праходзіць усеагульны перапіс насельніцтва. Наколькі мне вядома, стаўленне Саюза да гэтай акцыі зусім не абыякавае. Чаму?*

— Справа ў тым, што мы, беларусы ў Польшчы, — трывалая меншасць і каб захаваць свае карані, свае традыцыі, паважнае стаўленне да сябе — робім усё, каб людзі не забыліся пра гэта і называлі сябе грамадзянамі Польшчы беларускай нацыянальнасці.

*— Многія маладыя людзі і людзі больш сталага ўзросту тут на Беласточчыне, тым не менш, ужо перасталі лічыць сябе беларусамі. Што на гэта паўплывала?*

— Адным з чыннікаў такога становішча з'яўляецца фактар заняпаду таго, што мы называем беларускасцю ў самой Беларусі. А па другое — асіміляцыйныя памкненні з боку былых камуністычных уладаў. На сённяшні дзень працэсы асіміляцыі прыспешваюць эканамічныя і культурныя ўплывы.

*— Існуе меркаванне, што Беларускі Саюз быў створаны ў процівагу даўно дзеючаму Беларускаму Грамадска-Культурнаму Таварыству. Ці так гэта?*

— Стварэнне Беларускага Саюза — спроба пашырэння беларускага культурнага асяродка, таму ў гэтым дачыненні няма разыходжанняў з БГКТ. Разам з тым, у нас існуюць розныя погляды на сітуацыю і падзеі як у Польшчы, так і на Беларусі. Але ж стаўленне да перапісу мы маем аднолькавае.

*— Ці супрацоўнічае Саюз з грамадскімі аб'яднаннямі Беларусі?*

— Канешне, і ў першую чаргу з арганізацыямі Гарадзеншчыны, як самага блізкага да нас рэгіёна Беларусі. Прымаем мы актыўны ўдзел і ў рабоце аб'яднання беларусаў свету „Бацькаўшчына".

*— Якія перспектывы ў рабоце сваёй арганізацыі Вы зараз бачыце?*

— Перспектывы нашай дзейнасці як ў звычайнай дэмакратычнай дзяржаве можна адваяваць. У гэтым годзе пройдуць самаўрадавыя (мясцовыя — *У. Л.*) выбары і наша задача, каб у ворганы ўлады прайшлі адметныя кандыдаты з беларускім поглядам на рэчаіснасць.

*— Поспехаў вам! Дзякуй за размову!*

*Гутарыў Ул. Лапцэвіч*

**Рэдкалегія" Эміграната" ўдзячная рэдакцыі тыднёвіка „Ніва", а таксама Цэнтру Грамадзянскай Адукацыі „Польшча — Беларусь" за аказаную дапамогу пры падрыхтоўцы выдання.**

# Юрыдычная

*(працяг, пачатак у № 1)*

**Працэдура ў Радзе па справах уцекачоў**

Калі ў Вашай справе Прэзідэнт Управы выдаў негатыўнае рашэнне, можаце яго абскардзіць на працягу 14 дзён з моманту атрымання гэтага рашэння з Рады па справах уцекачоў. Са скаргай Вы звяртаецеся пры пасрэдніцтве Управы па справах рэпатрыяцыі і іншаземцаў.

Можна таксама абскардзіць рашэнне, у адпаведнасці з якім Ваша заява пакінута без разгляду альбо яна прызнана неабгрунтаванай.

Можаце дзейнічаць праз упаўнаважанага. Вы можаце прадастаўляць да справы новыя доказы, заявы і г.д.

Пасля падачы абскарджвання пісьмы Вам трэба дасылаць непасрэдна ў Раду па справах уцекачоў па адрасе: Алеі Уяздаўскія 19, 00-557 Варшава.

Абскарджванне павінна быць напісана па-польску. Дастаткова, каб яно змяшчала Вашу заяву аб тым, што Вы не згодныя з рашэнне Прэзідэнта Управы. Абскарджванне павінна змяшчаць сур'ёзныя аргументы супраць негатыўнага рашэння — гэта адпавядае Вашым інтарэсам.

Рада можа падтрымаць адмоўнае рашэнне альбо надаць Вам статус уцекача. Яна можа таксама перадаць справу на паўторны разгляд.

**Працэдура ў Галоўным адміністрацыйным судзе**

На негатыўнае рашэнне Рады Вы можаце ўнесці скаргу ў Галоўны адміністрацыйны суд на працягу 30 дзён з моманту атрымання рашэння. Скаргу можна падаць толькі асабіста альбо з дапамогай адваката ці юрыскансульта непасрэдна ў Галоўны адміністрацыйны суд па вул. Ясна 6, 00-013 Варшава. Падача скаргі не ахоўвае Вас аўтаматычна ад выдварэння з краіны.

Суд на пасяджэнні, куды Вас заклікаюць, разглядае — ці адпавядаюць прынятыя рашэнні закону. Суд можа падтрымаць негатыўнае рашэнне альбо адмяніць яго — тады справа разглядаецца яшчэ раз.

**Інтэграцыйная дапамога для ўцекачоў**

Іншаземец, які атрымаў у Польшчы статус уцекача, можа хадайнічаць аб дапамозе ў форме:

— грашовай дапамогі на выдаткі, асабліва на харчаванне, адзенне, абутак, гігіенічныя сродкі, кватплату ці іншыя.

— аплаты выдаткаў, звязаных з вывучэннем польскай мовы.

Памер дапамогі, якая выплачваецца штомесяц, залежыць ад велічыні сям'і ўцекача і ад працяглацсі атрымання дапамогі. Памер дапамогі складае ад 350 да 1000 злотых у месяц на чалавека.

Кожны, хто атрымае статус уцекача, мае 30 дзён з моманту ўручэння рашэння на тое, каб звярнуцца з заявай аб наданні інтэграцыйнай грашовай дапамогі.

З заявай трэба звяртацца да старасты ці да дзеючага ад яго імя кіраўніка павятовага цэнтра дапамогі сям'і ў павеце, у якім пражывае ўцякач.

Заява павінна ўтрымліваць:

— просьбу аб наданні дапамогі,

— вызначэнне рода неабходнай дапамогі, — дадзеныя аб сям'і ўцекача: жонкі(мужа) і дзецях,

— пісьмовую заяву аб намеры пражываць на тэрыторыі дадзенага павета,

— дэкларацыю аб далучэнні да інтэграцыйнай праграмы.

Трэба прадставіць копіі дакументаў:

— рашэнне міністра адміністрацыі і ўнутраных спраў аб наданні статуса ўцекача,

— праязнога дакумента, выдадзенага міністрам адміністрацыі і ўнутраных спраў,

— дазвол на пражыванне на тэрыторыі РП, а таксама іншых дакументаў, якія ёсць ва ўцекача і якія могуць дапамагчы ў распрацоўцы індывідуальнай інтэграцыйнай праграмы.

Усе прынцыпы рэалізацыі інтэграцыйных праграм і прадастаўлення дапамогі ўцекачам падрабязна вызначае распараджэнне міністра працы і сацыяльнай палітыкі, выдадзенае з мэтай падтрымкі працэса інтэграцыі ўцекачоў на тэрыторыі Рэспублікі Польшча.

Усю інфармацыю, звязаную з заявамі аб наданні інтэграцыйнай дапамогі, прадастаўляе Польская гуманітарная акцыя тэл.(022) 828 88 82, 828 90 86, факс (022) 831 99 38.

**Гуманітарны статус**

Нават калі Вы не будзеце прызнаныя ўцекачом, Вас не могуць выслаць з Польшчы, калі гэта супярэчыць Канвенціі аб абароне правоў чалавека і асноўных свабод. Калі Вы лічыце, што пасля вяртання на сваю Радзіму Вашыя асноўныя правы чалавека не будуць выконвацца, Вы можаце звярнуцца з заявай дазволіць Вам пражыванне ў Польшчы на працягу пэўнага тэрміну (гуманітарны статус).

З такой заявай трэба звяртацца да ваяводы, у выпадку адмоўнага рашэння яго можна абскардзіць, звяртаючыся да Прэзідэнта Управы па справах рэпатрыяцыі і іншаземцаў, а таксама ў Галоўны адміністрацыйны суд.

**Статус уцекача ў іншай краіне**

Польшчу краіны Еўрапейскага Саюза лічаць бяспечнай трэцяй краінай. Гэта значыць, што калі Вы выедзеце нелегальна, напрыклад, у Германію і там звернецеся з заявай аб прызнанні статуса ўцекача, Ваша заява не будзе разглядацца, а Вы будзеце дэпартаваныя ў Польшчу і ўнесеныя ў спіс непажаданых асобаў на тэрыторыі ЕС. Вы рызыкуеце таксама, што Вашая працэдура па прызнанню статуса ўцекача ў Польшы будзе спыненая падчас Вашага знаходжання за мяжой.

Калі без дазволу кіраўніка Вы пакінеце цэнтр для ўцекачоў, Вас туды ўжо не прымуць. Тым самым Вы страчваеце права на дапамогу, якая прадастаўляецца асобам у ходзе працэдуры па прызнанні статуса ўцекача.

**Карысныя адрасы:**

— Карытас Польска Бюро інфармацыі для мігрантаў і ўцекачоў, Беласток, вул. Варшаўска 32 тэл.: (85) 622 11 66; Люблін 20-950, вул. Прымаса Вышынскага 2, тэл: (81) 743 71 86; Уроцлаў 50-329, пл. Катэдральны 7, тэл: (71) 322 17 15.

— Галоўны Камендант памежных службаў вул. Кашыкова 16-б, Варшава 00-564, тэл: (22) 849 80 44, (22) 603 52 82.

— Рада па справах уцекачоў, Алеі Уяздаўскія 19, Варшава 00-583, тэл: (22) 520 04 21.

# кансультацыя

— Галоўны адміністрацыйны суд, вул. Ясна 6, Варшава 00-013;

— Амбудсмен, ал. Салідарнасці 77, Варшава 00-090, тэл: (22) 551 77 00, (22) 551 77 60;

— Прадстаўніцтва Вышэйшага камісара ААН па справах уцекачоў у Польшчы, ал. Руж 2, Варшава 00-556, тэл: (22) 628 69 30, (22) 625 61 46;

— Хельсінскі фонд правоў чалавека, вул. Брацка 18/62, Варшава 00-026, тэл: (22) 826 98 75, (22) 826 99 57, (22) 826 10 08 (бясплатная юрыдычная дапамога);

— Польская гуманітарная акцыя, вул. Шпітальна 5/3, Варшава 00-031, тэл: (22) 828 88 82, (22) 828 90 86 (матэрыяльная дапамога);

— Польскі чырвоны крыж, вул. Макатоўска 14, Варшава 00-561, тэл: (22) 628 55 75, (22) 621 36 25 (матэрыяльная дапамога);

— Юрыдычная клініка Варшаўскага ўніверсітэта, Кракаўскае прадмесце 26/28, Варшава 00-927, тэл: (22) 826 92 94 (бясплатная юрыдычная дапамога);

— Юрыдычная кансультацыя Ягелонскага ўніверсітэта, пл. Інвалідаў 4, Кракаў 30-033, тэл: (12) 633 37 96 (бясплатная юрыдычная дапамога).

### Жэнеўская канвенцыя аб уцекачах 1951 года: пытанні і адказы

Працэс утварэння міжнароднага права, мэтай якога з'яўляецца ахова уцекачоў, распачаўся на пачатку XX стагоддзя ў рамках Лігі Нацый. Яго найважнейшым пункт стала падпісанне 28 ліпеня 1951 г. на спецыяльнай канферэнцыі ААН Жэнеўскай Канвенцыі аб уцекачах. Канвенцыя адназначна вызначае, хто з'яўляецца ўцекачом і якую ахову і дапамогу ён павінен атрымаць ад дзяржавы, якая яе падпісала. Акрамя гэтага, яна акрэслівае абавязкі ўцекача ў адносінах да ўрада даючай прытулак краіны і пералічвае катэгорыі асобаў, якія не могуць атрымаць статус уцекача.

1 студзеня 1951 г., некалькі месяцаў перад прыняццем Канвенцыі, распачала дзейнасць новаўтворанае ўпраўленне Вышэйшага Камісара ААН па справах уцекачоў (UNHCR). Праз наступныя дзесяцігоддзі Канвенцыя стала падмуркам дзейнасці UNHCR, мэтай якога з'яўляецца дапамога ўцекачам і ахова каля 50 мільёнаў уцекачоў света.

Гэты першы прававы механізм выкарыстоўваўся абмежавана, галоўным чынам для ўцекачоў з Еўропы, якія з'явіліся падчас другой Сусветнай вайны. З часам праблема ўцекачоў пачала распаўсюджвацца на ўвесь свет, у сувязі з чым у 1967 годзе быў падпісаны Пратакол, які павялічыў межы дзейнасці Канвенцыі.

Канвенцыя таксама падштурхнула да ўтварэння падобных прававых механізмаў на рэгіянальным узроўні, такіх як Канвенцыя 1969 года, якая тычыцца ўцекачоў з Афрыкі і Картахенская Дэкларацыя 1984 года, якая тычыцца ўцекачоў з Лацінскай Амерыкі. Усяго да аднаго альбо да гэтых двух прававых механізмаў ААН далучылася 140 краін. На сенняшні дзень UNHCR дапамагае больш чым 21 мільёну чалавек. У час гвалтоўных пераменаў Канвенцыя аказалася вельмі эластычным дакументам і надалей застаецца ў аснове сістэмы абароны ўцекачоў.

Далей прадстаўляем адказы на галоўныя пытанні, якія тычацца Канвенцыі.

### Чаму Канвенцыя з'яўляецца такой важнай?

Канвенцыя з'яўляецца першай сапраўднай міжнароднай дамовай, якая ахоплівае найбольш істотныя аспекты жыцця ўцекача. У ёй пералічаны асноўныя правы ўцекача, якія павінны быць, прынамсі, як правы, якія маюць іншаземцы, што легальна жывуць у адпаведнай краіне, а ў вялікай колькасці выпадкаў як правы, якія маюць грамадзяне гэтай краіны. Дзякуючы Канвенцыі, праблеме ўцекачоў быў нададзены міжнародны характар, а таксама прызнана неабходнасць міжнароднага супрацоўніцтва, улічваючы падзел абавязкаў паміж рознымі краінамі.

### Якія вызначэнні з'яўляюцца найважнейшымі ў Жэнеўскай Канвенцыі 1951 года?

Канвенцыя акрэслівае тэрмін „уцякач”. Пералічвае агульныя правы ўцекача, такія як свабода веравызнання, перамяшчэння, права на працу, адукацыю, права на атрыманне праязных дакументаў. Адначасова яна пералічвае абавязкі ўцекача перад краінай, якая яго прыняла. Канвенцыя гарантуе, што ўцекачы не могуць быць адпраўлены альбо высланы ў краіну, дзе яны баяцца пераследу. Канвенцыя называе таксама асобы і групы асобаў, на якіх дзеянне канвенцыі не распаўсюджваецца.

### Чаму ў 1967 годзе быў прыняты Пратакол да Канвенцыі?

Пратакол анулюе геаграфічныя і часовыя абмежаванні, якія пачаткова былі ўключаны ў Канвенцыю. Паводле першых пастанаўленняў Канвенцыі прасіць статус уцекача маглі, у асноўным, еўрапейцы, якія прымалі ўдзел у падзеях, якія адбыліся ў Еўропе да 1 студзеня 1951 года.

### Хто з'яўляецца ўцекачом?

Артыкул 1. Канвенцыі вызначае уцекача, як асобу, якая прыбывае па-за межамі дзяржавы, грамадзянінам якой з'яўляецца альбо у якой на стала пражывае; якая апасаецца пераследу з прычыны сваёй расы, рэлігіі,нацыянальнасці, прыналежнасці да пэўнай грамадскай групы альбо з прычыны палітычных перакананняў, якая не можа альбо не хоча з гэтых прычын карыстацца абаронай гэтай дзяржавы альбо не хоча да яе вярнуцца.

*(працяг будзе)*



ЭМІГРАНТ

Месячнік беларускай палітычнай эміграцыі ў Польшчы

Нумар 2, травень 2002 г.

Выданне Зьвяза Беларускіх Палітычных Уцекачоў ў Польшчы.
Выходзіць з 2002 года.
Галоўны рэдактар: Ясь Абадоўскі.
Рэдкалегія: Уладзімір Лапцэвіч, Эльвіра Старавойтава.
Адрас да карэспандэнцыі: 15-424 Białystok, ul. Lipowa 25/3, з допісам „Эмігрант”
Наклад: 299 асобнікаў.
Рэдакцыя можа не падзеляць погляд аўтараў.
Тэлефоны для кантактаў: +48 607 494 857, +48 22 339 06 57
E-mail: zwiaz@poczta.onet.pl

# Шлях да дэмакратыі — праз павагу да ўласнасці

(*працяг з 1 стар.*)
му захоўваецца на беларускіх дзяржпрадпрыемствах. Хто са мной не згодны — прыязджайце і паглядзіце як працуюць на польскіх прыватных прадпрыемствах. Уласна кажучы, сам фактар кошту рабочай сілы для сучасных тэхналогій не мае вырашальнага значэння. Успамінаю ў гэтай сувязі сваю размову ў сярэдзіне 90-х гадоў з кіраўніком вядомага міжнароднага электратэхнічнага канцэрна АББ у Беларусі:„У нас ужо ёсць цэхі, дзе ўсяго два-тры чалавекі працуюць, усё аўтаматызавана і доля зарплаты ў выдатках вытворчасці зніжаецца. Мы не шукаем таннай рабочай сілы — гэта другасны фактар".

Што ж ім трэба? Асноўны „магніт" для замежнага капіталу ў цяперашніх умовах — гэта сыравіна і рынкі, гэта значыць наяўнасць спажыўца. Сыравіны, як вядома, нам самім не хапае (за выключэннем калійных соляў). А як са спажыўцом, г.зн, з рынкам? Дзесяцімільённае насельніцтва, якая-ніякая прамысловасць — ўсё гэта,канешне, не Кітай, але і не Літва ці Эстонія. Толькі вось рынак вызначаецца не колькасцю пакупнікоў, а „памерам" іх кашалька. І ў гэтым плане нават маленькая Данія можа даць „фору" Кітаю. Што ж гаварыць пра нас? Толькі тое, што вельмі мы кволыя пакупнікі. Польскіх яблыкаў можа яшчэ і купім, а вось ужо з сучаснай тэхнікай значна складаней. Праўда, нашы чыноўнікі і за імі некаторыя незалежныя эксперты ківаюць на мытны саюз з Расіяй і магчымасць праз Беларусь выйсці на яе рынак. На гэтую вудачку ў свой час ужо папаліся „Форд" і „МАН". Сёння іх на Беларусі няма. Па-першае, і расійскі рынак яшчэ вельмі слабы, а па-другое, калі думаць пра яго, то інвеставаць лепей там, а не ў суседняй краіне. Ну, а прамысловасць? Вунь як за нашыя нафтаперапрацоўчыя заводы змагаюцца расійскія алігархі! І тут мы ў палоне ілюзіяў. Не так ім ужо гэта ўсё і трэба. Той жа Лукойл, Юкас і іншыя маюць у Расіі свае заводы і больш моцныя, і больш сучасныя, і мадэрнізуюць без нарад у прэзідэнта. Акрамя таго, каму патрэбнае тое стар'ё, у якое пераўтварыў цяперашні „гаспадар" беларускія прадпрыемствы? Нават казаць аб гэтым няма сэнсу! У той жа Польшчы замежныя фірмы ўкладваюць сродкі ў польскія тэлекамунікацыі, сучасныя вытворчасці і нікога не цікавяць вядомыя польскія металургічныя прадпрыемствы, трактарны завод „Урсус" і іншае стар'ё. Што ўжо гаварыць аб Беларусі!

Таму трэба разумець, што пасля змены рэжыму да нас не хлынуць замежныя інвестыцыі і запатрабуецца вялікая праца, да якой трэба рыхтавацца ўжо зараз.

Таму вельмі важна для апазіцыйных партый звярнуць увагу на вельмі дрэнную тэндэнцыю ў грамадскай свядомасці беларусаў. Я маю на ўвазе адносіны да інстытута прыватнай уласнасці. Цяперашні „правадыр" народа разумее яе чыста па-бальшавіцку. Для яго прыватная ўласнасць — гэта як у Прудона — крадзеж. На жаль, 7 гадоў такой улады давялі да таго, што ў масе абывацеляў замацавалася такое ж меркаванне. Аб якіх замежных інвестыцыях можна гаварыць, калі ў грамадстве само паняцце прыватнай уласнасці ўспрымаецца як нешта чужое. А літаральна ж усе замежныя інвестары — гэта прыватнікі. Яны вельмі добра адчуваюць адносіны да інстытуту ўласнасці ў краіне. Як ні прыкра гэта гучыць, але для іх той факт, што ў Беларусі знікаюць вядомыя палітыкі і журналісты, збіваюць дэманстрантаў — мала што значыць, а вось тое, што тут не паважаецца прыватная ўласнасць — робіць Беларусь „экзатычнай краінай", як выказаўся мой знаёмы польскі бізнэсмэн. У нас чамусьці забываюць, што асновай свабоды чалавека з'яўляецца ўласнасць. І не абстрактна-грамадская ці дзяржаўная, а яго асабістая, прыватная. Застаецца спадзявацца, што гэта калісьці зразумеюць на Радзіме.

## *Эміграцыя*

*Вас пагнаў жорсткі лёс*
*з айнявокай радзімы ў свет.*
*А ў роднай зямлі пахаваны бабуля і дзед.*
*А ў зялёным гаі*
*кожны травень звіняць салаўі*
*І гудуць над палеткамі пчолак руплівых раі.*

*Эміграцыя, эміграцыя...*
*Беларусь — гэта дзеці твае.*
*Эміграцыя, эміграцыя...*
*Шмат па свеце дачок і сыноў.*
*Эміграцыя, эміграцыя...*
*Вас гукае матуля дамоў!*

*Сумна вам, дарагія мае, на чужыне ўміраць,*
*Там, дзе дрэвы ня тыя, ня тая зусім сенажаць.*
*Там дзе сонца ня тое, і месяц на небе ня той,*
*Там не ўбачыш старэнькі асвер*
*і вярбу над вадой.*

*Эміграцыя, эміграцыя...*
*Беларусь — гэта дзеці твае.*
*Эміграцыя, эміграцыя...*
*Шмат па свеце дачок і сыноў.*
*Эміграцыя, эміграцыя...*
*Вас гукае матуля дамоў!*

Уладзімір Палупанаў

